


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 6 (322) КРАСАВІК 2022 ГОДА

БЕЛАРУСКАЯ ПРЫМАЎКА

Дурань хоць на каго скажа “дурань”

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

## АБРЫНУЛАСЯ ПЛІТА ПЕШАХОДНАГА МАСТА

**14 красавіка ў 7-15 раніцы паступіла паведамленне аб абвальванні пліты пешаходнага моста праз раку Гаражанка паміж вуліцамі Карла Маркса і Юбілейнай у Гарадку. Пра гэта інфармуе Віцебскае абласное ўпраўленне МНС.**

Канструкцыя, якой амаль 60 гадоў, звязвала цэнтр горада і прыватны сектар. Па гэтым жа мосце людзі звычайна хадзілі ў школу № 2. Дарэчы, разбураны мост нядаўна амаль цалкам сышоў пад ваду з-за паводкі.

На месца здарэння неадкладна выехалі падраздзяленні Гарадоцкага райаддзела па надзвычайных сітуацыях. Ратавальнікі высветлілі, што адбылося абвальванне адной з чатырох пліт пешаходнага моста. На шчасце, ніхто не пацярпеў. Жыццядзейнасць насельніцтва не парушана, побач функцыянуе аўтамабільны мост з агароджанымі тратуарамі для пешаходаў.

**Ад рэдакцыі:** Разбураны мост НІКОЛІ "амаль цалкам" пад ваду не сыходзіў! Сыходзіў пад ваду толькі школьны пешаходны мост па вуліцы Невельская шаша.

Пешаходны мост на выгляд быў трывалы. Пытанне пабудовы сучаснага маста з цэнтра Гарадка да вуліц Юбілейная і Палявая, дзе пераважна пражываюць людзі сталага ўзросту, быў у праекце рэспубліканскіх «Дажынак 2014». Толькі яны набылі статус абласных і пытанне знялася, а праблема засталася.

Тым больш, што ў Гарадку ў аварыйным стане яшчэ два масты праз Гаражанку на вуліцах Праўды і Галіцкага. Улады пра гэта ведаюць, але рэсурсаў на рэканструкцыю мусіць зараз не маюць.

Сёння дарожнікі пачалі рабіць праход для пешаходаў з вуліцы Зарэчанскай праз яшчэ адзін пешаходны мост.

Дарога выводзіць да будынка «Белтэлекама» па вул. К. Маркса.

А праход праз мост сёння ахоўвалі супрацоўнікі міліцыі.

**Леанід Гаравы**

## ПЛІТЫ АВАРЫЙНАГА МАСТА ДЭМАНТАВАНЫ

**Паведамленне аб абвальванні пліты пешаходнага маста праз раку Гаражанка паміж вуліцамі Карла Маркса і Юбілейнай у Гарадку стала навінай для ўсёй Беларусі. Распавядаем, якое становішча з мастом на 20 красавіка.**

Пасля гэтага камунальнікі найперш закрылі праход праз мост. Па-першае, з боку вуліцы К. Маркса завараны уваход на мост.

Па-другое, дэмантаваны дзве пліты з боку вуліцы Юбілейная. Толькі «каскадзёр» рызыкне праз мост перабрацца.

Для прахода пешаходаў у горад зроблена драўляная лесвіца, каля аварыйнага маста. І людзі сталага ўзросту ёй карыстаюцца.

Таксама камунальнікі яшчэ 14 красавіка зрабілі пераход праз другі пешаходны мост каля вуліцы Зарэчанскай. Праўда пад’ем да будынка Белтэлекама тут цяжкаваты.

Па словах жыхароў цяпер камунальнікі чакаюць калі Гаражанка вернецца ў сваё рэчышча і тады пачнецца рамонт пабуранага маста. Дарэчы мясцовы жыхар, назаву яго Валера, распавёў, што гэты мост будаваўся ў 1967 годзе. А калі мост абрынуўся ў 6.45, то падалося быццам бы выбух адбыўся, а не абвал пліты.

Колькі ж часу давядзецца дарожнікам узгадняць неабходныя дакументы па праектаванню рамонта і сметы ў неабходных структурах, а потым вярнуць на ранейшае месца дзве пешаходныя пліты, пакажа жыццё.

Магчыма пра гэта распавядуць і мясцовыя ўлады. Чакаем.

**Л. Антонаў**

***Ад рэдакцыі:*** *Камунальнікі сказалі, што рэканструкцыя складаная справа, а аднавіць пешаходны рух магчыма да 1 траўня.*

**ЗНАЧНА БОЛЬШ НАВІНАЎ ПРА ГАРАДОК НА HARADOK.INFO**

НАША ЖЫЦЦЁ

## ХРОНІКА РАЗЛІВУ ГАРАЖАНКІ

**За тры дні з 11 па 13 красавіка Гаражанка адчула і найвялікшы разліў, і вяртанне ў сваё рэчышча.**



Вясна 2022 года на Гаражанцы суправаджалася вялікім разлівам вады, калі рэчка выйшла са свайго рэчышча.

Індыкатарам разліву Гаражанкі магчыма лічыць пешаходны мост да СШ № 2 г. Гарадка па Невельскай шашы.

У суботу 9 красавіка праз яго яшчэ магчыма было прайсці, але Гаражанка ўжо разлілася.

Субботні дождж пачаў зганяць снег ля вытоку Гаражанкі і яе ўзровень стаў падымацца вышэй.

У панядзелак 11 красавіка да школы і са школы прайсці было не магчыма ў простым абутку.

12 красавіка пачалося вяртанне Гаражанкі да свайго рэчышча. А сёння ў сераду вечарам наша рэчка амаль вярнулся ў сваё рэчышча: яна цячэ ніжэй маста на метр.

Падобнае становішча і па вуліцы Галіцкага на яе пачатку, дзе аварыйны мост. Гаражанка тут яшчэ шырока, але хутка вернецца ў сваё рэчышча.

На пачатку вуліцы Галіцкага была вада і ў панядзелак не было праходу.

Але за тры дні вада Гаражанкі пайшла ў гарадоцкія азёры Лугавое, Арэхавае, Шчарба-коўскае. Далей рака Усыса панесла ваду да рэчкі Обаль.

**Л. Антонаў**

ТАРАСАЗНАЎСТВА

## ВЫЯЎЛЕНЫ ПЕРШЫЯ АБРЫСЫ СЯМЕЙНЫХ СУВЯЗЯЎ ВЕРАНІЦЫНА

**Даследчык біяграфіі Канстанціна Вераніцына Антон Францішак Брыль апублікаваў артыкул пра сямейныя сувязі нашага славутага зямляка у красавіцкім нумары часопісу «Роднае слова». У спісу літаратуры 17 дакументаў, якія грунтоўна даследаваў вераніцыназнаўца.**

Раней мы пісалі, што Антон Брыль, беларускі перакладчык і паэт, унук Янкі Брыля, ў верасні 2019 знайшоў некралог Канстанціна Вераніцына ў газеце «Новое время» за 1903 год. Пра абставіны пошука даты смерці К. Вераніцына і сам некралог нашага славутага зямляка Антон Францішак Брыль распавёў у снежаньскім часопісу «Роднае слова» за 2019 год такім чынам.

Апошнія два гады даследчык працягваў інтэнсіўную працу па вывучэнню сувязяў К. Вераніцына і паведаміў пра свае знаходкі ў навуковым артыкуле «Сямейныя сувязі Канстанціна Вераніцына: першыя абрысы».

Вынікам даследаванняў Антона Брыля стала адкрыццё імя роднага брата Канстанціна — Івана Вераніцына і яго дзяцей , а таксама сястры (імя яшчэ не выяўлена), у якой былі дзеці.

У артыкуле пра гэта напісана так: «Іван Васілевіч Вераніцын, бацька Фёдара і Яўгеніі, быў вучнем вольнага наведвання Акадэміі мастацтваў і ў 1855 г. атрымаў званне ня класнага мастака з правам „выконваць будынкі“ . У лісце ад 4 лютага 1853 г. знакаміты архітэктар Канстанцін Тон просіць прызначыць Івану Вераніцыну, які на той час правучыўся ў Акадэміі два гады і паказваў „асаблівыя поспехі“ ў архітэктуры, стыпендыю па беднасці, каб ён змог скончыць неабходны курс. Пазнака на лісце паведамляе, што хадайніцтва было задаволенае. У сакавіку 1860 г. пра Івана Вераніцына згадвае яго сябар мастак Іван Трутнеў у лісце да мецэната Паўла Траццякова: Іван Васілевіч на той час нядаўна пасяліўся ў Маскве і працаваў архітэктарам у французскай кампаніі чыгунак. Праз год, у сакавіку 1861 г., Іван Вераніцын зноў жыў у Пецярбургу і спрабаваў уладкавацца ў Міністэрства народнай асветы. З ліставання па гэтым пытанні відаць што метрычнае пасведчанне (на жаль, адсутнае ў справе) Івану Васілевічу выдавала Полацкая духоўная кансісторыя і што да паступлення ў акадэмію ён быў мешчанінам Гарадка ў Віцебскай губерні. Знаходзім яго і ў адраснай кнізе Пецярбурга за 1867–1868 гг. , а ў 1878 г. бачым сярод землеўладальнікаў Полацкага павета: яму належыць маёнтак Старыя Гараны. Таксама і ў 1901 г. уладальнікам гэтага маёнтка названы архітэктар Іван Васілевіч Вераніцын, а яго паверанным выступае Фёдар Іванавіч Вераніцын . Памёр Іван Васілевіч у 1903 г. — пра гэта праз шмат гадоў паведамляе ў анкеце яго сын [9, арк. 3]».

Антон Брыль знайшоў і інфармацыю і пра пляменнікаў Канстанціна Вераніцына. Так сын брата, следчы Фёдар Іванавіч Вераніцын, найбольш вядомы як удзельнік надзвычайнай камісіі, якая ў 1917 г. па даручэнні Часовага ўрада расследавала супрацьзаконныя дзеянні найвышэйшых службовых асобаў у справе Бэйліса. Апроч шматлікіх згадак пра Фёдара Іванавіча ў памятных кніжках (паслужыў ён, між іншым, і ў Віцебскай губерні) захаваліся

***(працяг на стар. 2)***

ТАРАСАЗНАЎСТВА

*(пачатак на стар. 1)*
таксама звесткі ў архівах СанктПецярбурга, у тым ліку працоўныя анкеты 1944 г.. Анкеты паведамляюць, што Фёдар Іванавіч нарадзіўся 8 чэрвеня 1869 г. у сям'і Івана Васілевіча і Ганны Восіпаўны Вераніцыных і што яго сын Георгій эміграваў у Бялград і сувязь з ім страчаная. Гэты сын, Георгій (Юрый) Фёдаравіч Вераніцын, — таксама цікавая фігура, рускі белаэмігранцкі паэт, удзельнік літаратурнага гуртка «Гамаюн».

З усяго гэтага даследчык робіць выснову: «выглядае, што Іван Вераніцын быў братам Канстанціна і што ў іх была невядомая пакуль па імені сястра, маці Канстанціна Гуцэвіча. Усе трое атрымалі волю яшчэ да адмены прыгону (у выпадку сястры пра гэта кажа дата нараджэння яе сына ў спалучэнні з сацыяльным статусам мужа).

Новыя звесткі змушаюць пановаму ўявіць жыццё Канстанціна Вераніцына. У Пецярбургу ў 1852— 1854 гг. ён вучыўся адначасова з братам і стасаваўся, імаверна, з яго сябрамімастакамі. Месца і час напісання паэмы „Два д'яўлы", пазначаныя ў сшытках А. Рыпінскага (Масква, 7 красавіка 1860 г.), атрымоўваюць простае тлумачэнне: Канстанцін мог завітаць на Вялікдзень да Івана, які акурат тады працаваў у Маскве. Старасць Канстанціна і Лізаветы Вераніцыных прайшла ў атачэнні мноства сваякоў, сярод якіх былі добра адукаваныя людзі: з'яўляюцца новыя накірункі для пошуку лістоў ці дзённікаў, дзе мог быць згаданы наш герой.»

Таксама Антон Брыль робіць выснову: " калі вольную Канстанціну ад паноў Бондыравых і іх далейшы клопат пра яго адукацыю можна было б патлумачыць сентыментальным дбаннем пра вясковыя таленты, то выпуск на волю адразу траіх дзяцей дае новую моц даўно агучанай здагадцы [1, с. 540]: Вераніцыны, цалкам магчыма, былі пазашлюбнымі дзецьмі Васіля Бондырава.«

Сёння мусіць не магчыма знайсці парэшткі цела Канстанціна Вераніцына, каб зрабіць генетычную экспертызу з нашчадкамі памешчыка Васіля Бондарава, да якіх належыць вядомы дзеяч Расіі Артур Чылінгараў. Але аналіз маючых фактаў пра Вераніцыных дае высокую верагоднасць таго, што яны былі пазашлюбнымі дзецьмі памешчыка Васіля Бондарава.

Будзем спадзявацца, што сучасныя падыходы Антона Брыля па даследаванню сямейных сувязяў Канстанціна Вераніцына дадуць плён. Або іншыя даследчыкі нашай спадчыны зацікавяцца гэтай тэмай.

Нам жа трэба лепш ведаць гісторыю адкрыцця імя К. Вераніцына. Ведаць дзейнасць яго «хроснага бацькі» Генадзя Кісялёва, без якога у нас не было бы мемарыялізацыі паэмы «Тарас на Парнасе». Ведаць дзейнасць Анатоля Дарафеява без якога не было бы мемарыяльных знакаў каля музея ды і «Гарадоцкага Парнасу». Мець удзячнасьць да кіраўнікоў супрацоўнікаў музея, якія былі ў вытокаў літаратурна-краязнаўчых чытанняў у 1997 годзе і г.д.

**Леанід Гаравы**
**Паводле: haradoktour.by**
**Артыкул А. Ф. Брыля тут: veranicsemija**

# ПОМНІК З ДЭТЭКТЫЎНАЙ ГІСТОРЫЯЙ

**«Ці знаў хто з вас, браткі, Тараса, Што палясоўшчыкам служыў? На Пуцявішчы, у Панаса, Ён там ля лазні блізка жыў». Гэтыя радкі невялікай паэмы «Тарас на Парнасе» цудоўна ведаюць некалькі пакаленняў беларусаў. Яе некалі перапісвалі ад рукі, вучылі на памяць у школах, пераказвалі і рабілі па ёй тэатральныя пастаноўкі. Журналісты «Анлайнера» пабывалі ў Гарадоцкім раёне і зрабілі якасны, цікавы рэпартаж. Па-беларуску...**




Доўгі час многія лічылі гэты жартаўлівы твор ананімным, народным, і толькі ў 1970-х спецыялісты вызначылі, што ў яго ёсць сапраўдны аўтар — былы прыгонны селянін Канстанцін Вераніцын. Мы пагутарылі пра пісьменніка з экспертамі, з'ездзілі на ягоную радзіму ў Гарадоцкі раён, убачылі родную вёску Вераніцына і даведаліся, як шануюць аўтара знакамітай паэмы.

**«Ні адзін беларускамоўны твор не быў такім папулярным, як „Тарас на Парнасе"»**

Вершаваную гісторыю пра палясоўшчыка Тараса ўпершыню надрукавалі ў газеце «Мінскі лісток» у 1889 годзе. Галоўны герой твора пасля сустрэчы з мядзведзем нечакана патрапіў на гару Парнас і ўбачыў жыццё антычных багоў, якія пілі гарэлку, елі беларускія стравы (капусту, жур, крупнік) і нават танчылі некалі папулярную «мяцеліцу». Зразумелы гумар і падабенства з беларускім побытам прывялі да нечуванага эфекту. Паэму пачалі перадрукоўваць выданні розных гарадоў, у 1896-м «Тараса на Парнасе» выдалі ў Віцебску асобнай кніжачкай, а праз 13 год — у славутай друкарні Марціна Кухты ў Вільні, які выдаваў паэзію Багдановіча, Цёткі і Коласа.

Так паэма ператварылася ў сапраўдны хіт, адзін з самых чытаных беларусамі тагачасных твораў, які ў тым ліку паўплываў на станаўленне беларускай літаратуры.

— Напярэдадні нашаніўскага перыяду ні адзін беларускамоўны твор не быў такім папулярным, як «Тарас на Парнасе», — падкрэслівае перакладчык, даследчык беларускай літаратуры Антон Францішак Брыль. — Нашую школьную класіку збольшага пісалі людзі, якія чыталі «Тараса», і для людзей, якія таксама чыталі «Тараса».

Парадокс. Паэму ведалі многія, але дакладна назваць прозвішча аўтара ніхто не мог. З-за гэтага аўтарства прыпісвалі і Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу, і Арцёму Вярызе-Дарэўскаму, і Вікенцію Равінскаму, і нават бегламу дзекабрысту Яўхіму Крупеньку.

Спрэчкі вяліся доўга, пакуль наш славуты літаратуразнаўца Генадзь Кісялёў не даведаўся ад паэта Максіма Лужаніна пра ўспаміны беларускага эмігранта Антона Адамовіча. Той да вайны вучыўся ў БДУ і прыгадваў, як выкладчык літаратуры Міхаіл Піятуховіч дэманстраваў рукапісную копію «Тараса на Парнасе», дзе аўтарам значыўся нікому не вядомы Канстанцін Вераніцын. Кісялёў пачаў працаваць з архівамі і ў выніку даведаўся, што гэта рэальны чалавек, які нарадзіўся ў 1834-м у вёсцы Астраўляны пад Гарадком. Ён быў прыгонным селянінам у тамтэйшага памешчыка Васіля Бондырава, але з яго дапамогай здолеў атрымаць добрую адукацыю. Ёсць версія, што Канстанцін быў пазашлюбным сынам Бондырава ад сялянкі і такім чынам памешчык спрабаваў яму дапамагчы.

— І гэта цалкам магчыма, — сцвярджае Антон Францішак. — Такую здагадку агучваў усур'ёз і Генадзь Кісялёў, найбольш значны даследчык біяграфіі Вераніцына. Даўно прыцягвала ўвагу, што Бондыравы паклапаціліся пра добрую адукацыю для вольнаадпушчанага сялянскага хлопчыка. Менавіта яны ўладкоўвалі Вераніцына ў Віцебскую гімназію.

Калі да гэтага дадаць, што па бацьку ён быў Васільевіч, а пана Бондырава звалі Васілём, то зразумела, адкуль бяруцца падазрэнні…

Спачатку Вераніцын вучыўся ў Гарадку, потым — у Віцебску, Пецярбурзе, земляробчым інстытуце ў Горках, які скончыў на выдатна. Пэўны час працаваў настаўнікам у Маладзечне, а пасля зрабіў выдатную кар'еру чыноўніка ў Пецярбурзе — у Міністэрстве шляхоў зносін. У 1900-м сышоў у адстаўку ў чыне стацкага саветніка, а праз тры гады, як атрымалася ўстанавіць Брылю, памёр ад кровазліцця ў мозг у прыгарадным дачным пасёлку Лясное, куды сям'я, відаць, з'язджала на лета. Яму было 69 гадоў.

Да сваёй смерці ў ніводным выданні пісьменнік дакументальна не пацвердзіў, што з'яўляецца аўтарам «Тараса на Парнасе». І некаторых даследчыкаў дагэтуль непакоіць пытанне, чаму Вераніцын так маўкліва пазіраў на тое, як ягоны твор становіцца папулярным без аніякай згадкі пра аўтара. Магчыма, баяўся за сваю кар'еру, а можа, проста быў даволі сціплым чалавекам.

— На такое пытанне акурат вельмі цяжка адказаць, нічога не ведаючы пра характар чалавека, — разважае эксперт. — Мы можам уяўляць рознае. Напрыклад, што ён проста не любіў публічнасць альбо што зрабіўся з узростам больш суровым чалавекам і яму ўжо самому не падабаліся легкадумныя вершы маладосці. Але папраўдзе, мы проста не ведаем, што там рабілася ў ягонай галаве.

На жаль, наведаць магілу Вераніцына немагчыма. Мітрафаніеўскія могілкі, дзе пахавалі пісьменніка, знішчылі ў Пецярбурзе яшчэ да вайны. Але на поўначы Беларусі захаваліся мясціны, звязаныя з Канстанцінам. Туды мы і накіраваліся.

**Вёска Астраўляны**

Вёска Астраўляны пад Гарадком, дзе нарадзіўся Вераніцын, існуе дагэтуль. Праўда, знаходзіцца ўбаку ад ажыўленай віцебскай дарогі, і даедзе сюды далёка не кожны фанат літаратуры. Прасцей, безумоўна, скарыстацца аўто і навігатарам, аднак можна падсесці і на прыгарадны аўтобус, які курсуе ад райцэнтра.

Пра Астраўляны час ад часу расказваюць прыгожую легенду. Нібыта назва вёскі пайшла ад вострава на мясцовым возеры, які калісьці назвалі Лянэ — у гонар дачкі землеўладальніка. Аднак эстэтыка тут сёння існуе толькі ў легендах, у самім жа населеным пункце пануе суровая рэчаіснасць. Астраўляны — звычайная беларуская вёска з савецкім бэкграўндам, які зруйнаваў час. Некалі тут існаваў буйны і вядомы ў раёне калгас імя Леніна, але сёння ад памяшканняў гаспадаркі засталіся толькі каркасы і друз. У цэнтры Астраўлянаў мы пабачылі дагледжаны, дзіўным чынам пафарбаваны помнік савецкаму салдату.

А яшчэ — стары абшарпаны прыпынак і памятную таблічку на валуне паміж бярозамі. Яна паведамляе, што менавіта тут нарадзіўся аўтар паэмы «Тарас на Парнасе».

Дзе тут мог жыць Вераніцын — уявіць складана. Ад панскіх пабудоў, на жаль, відавочных слядоў не засталося. Па дапамогу мы вырашылі звярнуцца ў мясцовы клуб, да якога вядзе вуліца з характэрнай назвай Клубная. Але ў выніку ўбачылі перад сабой абнесены плотам пусты двухпавярховік.

На закрытай пляцоўцы ляжалі аўтамабільныя шыны, а налепка на веснічках папярэджвала пра відэаназіранне. Як аказалася, чатыры гады таму будынак, дзе месціліся клуб, бібліятэка, адміністрацыя калгаса, выкупілі гаспадары мясцовай аграсядзібы, але пакуль, відаць, так і не вырашылі, як яго выкарыстоўваць.

**Райцэнтр Гарадок**

На фоне старых і пабітых часам вёсак суседні райцэнтр Гарадок выглядае зусім інакш. У 2014-м тут праводзілі абласныя Дажынкі, таму напярэдадні свята навялі сур'ёзны марафет: адрамантавалі цэнтральныя вуліцы, плошчу, стадыён, аўтавакзал і воданапорную вежу, якая лічыцца сімвалам горада. Мястэчка стала выглядаць сапраўды прывабна.

У той час у Гарадку нават устанавілі помнік Тарасу з паэмы Вераніцына. З гэтым помнікам звязана амаль дэтэктыўная гісторыя. На сваім месцы ў скверыку Тарас прастаяў колькі месяцаў, а пасля нечакана знік. Мясцовыя жыхары, зразумела, здзівіліся і занепакоіліся. Ну пагадзіцеся, не кожны ж дзень у гарадах знікаюць помнікі. А сталася так, што разлічыцца за манумент у Гарадку не знайшлося сродкаў, і вытворцы забралі скульптуру. Але сітуацыю атрымалася выправіць. Вярнуць Тараса ў Гарадок дапамог расійскі сельскагаспадарчы канцэрн «Детскосельский», які на тэрыторыі раёна мае свой філіял.

Помнік сапраўды выглядае цікава. Тарас тут нагадвае тыповага беларуса, які матэрыялізаваўся з літаратурнага твора. Праўда, манумент чамусьці пафарбавалі ў чорны колер, а з адваротнага боку змясцілі пераклад першых радкоў паэмы на англійскую мову.

Вуліцы Вераніцына ў Гарадку пакуль няма, але пра пісьменніка і ягоны твор нагадвае памятны знак, які ўстанавілі каля краязнаўчага музея на гарадской плошчы.

Будынак музея з флюгерам і невялічкай вежай на фоне звычайнай савецкай архітэктуры выглядае вельмі эстэтычна.

Экспазіцыя ў музеі даволі разнастайная. Тут табе і косткі мамантa, і прылады з езярышчанскай метэастанцыі, дзе зімой фіксуюць самыя нізкія тэмпературы ў Беларусі, і старыя строі з мясцовага камбіната бытавога абслугоўвання, якія калісьці вазілі прадаваць у суседнюю Расію.

*(моцна скарочана)*

**Тарас Шчыры**
**people.onliner.by**

УКРАІНА

# ЗЕЛЕНСКИЙ — СИМВОЛ СМЕНЫ ПОКОЛЕНИЙ ПОЛИТИКОВ, СИМВОЛ БУДУЩЕГО

**Российский публицист Максим Кац популярно объяснил, за что Путин так сильно ненавидит и хочет физически устранить украинского лидера. Кем стал Владимир Зеленский для Украины и мира с началом агрессии России?**



Как можно пережить, когда рядом правит президент, который самим фактом своего существования подписывает тебе приговор?

Фигура Владимира Зеленского стала одним из важных побудительных мотивов для Путина развязать агрессию, считает Максим Кац.

— Зеленский — символ смены поколений политиков на постсоветском пространстве, буквально символ будущего, — рассуждает публицист на своем канале. — Того самого будущего, которому нельзя позволить преуспеть, иначе оно уничтожит то прошлое, в котором живет Путин.

Владимир Путин примерно в 40 лет встретил крах СССР. Тот мир, в котором вы были кем-то, закончился в одночасье. Ваша карьера — не карьера больше, на вас, некогда уважаемого человека, хозяева новой жизни смотрят, как на пустое место. Именно поколение Владимира Путина, сорокалетние в начале 90-х, а сейчас 70-летние, в большей степени, чем все остальные люди, несет на себе эту травму. Все хорошее в их жизни, когда хотелось и моглось, осталось в стране, которой нет.

Нет настолько давно, что те, кто встретил кончину советского строя подростком и не испытывает к нему никаких теплых чувств, уже составляет политическую элиту, уже избираются главами крупных государств. Именно здесь можно найти причину неприязни к Владимиру Зеленскому. Неприязни настолько сильной, что можно пойти на открытую войну, лишь бы он не добился успеха.

Политолог отмечает, что Зеленский стал единственным из глав государств, с которым Путин не смог найти общий язык.

— Со всеми предыдущими украинскими лидерами, как и с большинством лидеров на постсоветском пространстве, Путин говорит на одном языке. Между ними могут быть какие угодно личные отношения.

Понятно, что с Лукашенко, который почти три десятка лет живет обманом своих крем-левских спонсоров, отношения не могут быть теплыми. Но, что очень важно, они с Путиным друг другу понятны.

Это все насквозь советские люди, взращенные в той же самой убогой логике, где противостояние Западу совмещается с поклонением ему же, где ненависть к американской военщине и мечта накопить на ношенные американские джинсы легко уживаются в одной голове. Между лидерами, выращенными советской властью, не может быть никакой дискуссии о роли НАТО, как потенциального противника.

При этом кто такой Владимир Зеленский в привычной для Путина среде? Зеленский, который закончил школу в 1995 году, за год до того, как Путин в должности заместителя Собчака провалил губернаторские выборы в Петербурге?

Он не просто чужак, он хуже — он как призрак будущего Рождества. Бывалый советский функционер, глядя на Зеленского, не просто понимает, что его век уходит, но и видит свою смерть во плоти. Он видит лидера государства, который годится ему в сыновья и для которого все его ценности пустой звук.

Отдельно символично то, что Зеленский — ровесник Навального. Вот кто идет на смену. Те, кто все твое правление обратит в прах. Кто просто скажет: друзья, все, чем десятки лет вас кормил телевизор, это такая невыносимая чепуха, что, давайте, просто ее забудем. Давайте перестанем через слово поминать победу во Второй мировой войне, к которой никто из ныне живущих не имеет ни малейшего отношения. Давайте перестанем выдумывать себе прошлое, верить в свой же вымысел и пытаться это прошлое возвратить.

Нам не нужно переживать, что Эстония — член НАТО, нам нужно переживать, что в крошечной Эстонии, без нефти, газа и с внутренним рынком на миллион человек, средняя зарплата втрое выше, чем у нас. Вот это проблема, а не угроза НАТО, которой не существует в природе, — обращает внимание Маким Кац.

Он продолжает свой анализ, перечисляя страхи российского правителя, которые загнали его в тупик.

— Даже если бы Путин не догадывался, с какой скоростью будущее отменит прошлое, даже если бы пребывал в благом неведении, то кризис в Казахстане показал ему, что самый лояльный и самый невзрачный и подконтрольный преемник обнулит любого елбасы за две недели и следа не останется.

Когда будущее — твой внутренний враг, то его можно попытаться отравить, можно посадить на долгие годы его самого и его сторонников, можно избить на улицах протестующую молодежь. Как краткосрочная мера это работает.

Но прямо по соседству в самой большой после России славянской русскоговорящей стране уже правит президент, который самим фактом своего существования подписывает тебе приговор. Тебя не будет, не будет в очень близкой перспективе. А жить будем мы, и следа мы от тебя никакого не оставим.

В сознании пересидевшего диктатора такая картина должна вызывать ужас и естественную потребность от этого ужаса себя избавить буквально через физическое уничтожение будущего. Но поскольку то прошлое, в котором живет Путин, целиком вымышленное и недееспособное, то даже с физическим уничтожением ничего не вышло и не выйдет, — уверен политолог.

Он напомнил, что к началу 2021 года рейтинг Зеленского и его партии «Слуга народа» снизились до рекордных минимумов. И президент вступил в борьбу со своими оппонентами, главным образом, Виктором Медведчуком и Петром Порошенко. В Украине началась избирательная компания. Президентские выборы должны пройти в 2024 году.

— Победа Зеленского на этих выборах была далеко не очевидна. В Украине не очень любят переизбирать президентов на второй срок. Но все изменилось 24 февраля 2022 года, когда Россия напала на Украину, а Зеленский превратился в президента воюющей страны.

В первые дни все ожидали, что он покинет Киев и эвакуируется. Но он записывал очень вдохновляющие и сильные ролики практически каждый день. И сегодня Зеленский стал самым популярным руководителем на планете Земля. Он президент, ставший легендой, — заключает Максим Кац.

**gazetaby.info**

РАСІЯ - УКРАІНА

# ГЕАПАЛІТЫКА ЗГОДНА З ПАНЯЦЦЕМ СВОЙ-ЧУЖЫ

**Хто гучней за ўсіх крычыць: «Трымай злодзея»? Адказ на гэта пытанне даўно не з'яўляецца таямніцай. А хто найбольш актыўна змагаецца з нацыстамі — і суправаджае гэтую барацьбу адпаведнай рыторыкай?**

Заходжу на сайт RIA.RU (РІА «Новости»), які прэтэндуе, калі верыць Вікіпедыі, на ролю аднаго з лідараў рунэту сярод інфармацыйных анлайн-рэсурсаў і самага цытаванага расійскага СМІ ў сацыяльных сетках па стане на кастрычнік 2021 года. Заходжу, што называецца, «па наводцы», маючы на мэце азнаямленне з артыкулам «Што Расія павінна зрабіць з Украінай» філосафа і метадолага Цімафея Сяргейцава.

Аўтар пачынае артыкул з магутнага акорда, што не пакідае сумневаў наконт яго стаўлення да «спецаперацыі»: «Яшчэ ў красавіку мінулага года мы пісалі пра непазбежнасць дэнацыфікацыі Украіны. Нацысцкая, бандэраўская Украіна, вораг Расіі і інструмент Захаду па знішчэнні Расі нам не патрэбна. Сёння пытанне дэнацыфікацыі перайшло ў практычную плоскасць».

Далей — больш: «Дэнацыфікацыя неабходная, калі значная частка народа — хутчэй за ўсё, яго большасць — асвоеная і ўцягнутая нацысцкім рэжымам у сваю палітыку. Гэта значыць, тады, калі не працуе гіпотэза „народ добры — улада дрэнная“».

Які лёс чакае дрэнную, з пункту гледжання Сяргейцава, уладу, думаю, здагадацца нескладана: «Бандэраўская вярхушка павінна быць ліквідаваная, яе перавыхаванне немагчымае».

Але як варта паступіць з нядобрым народам — усіх жа не перавешаеш? Вось тут і павінна праявіць сябе ў поўнай меры дэнацыфікацыя, пад якой філосаф і метадолаг разумее «комплекс мерапрыемстваў у адносінах да нацыфікаванай масы насельніцтва, якая тэхнічна не можа быць падвергнутая прамым пакаранням у якасці ваенных злачынцаў».

Якіх канкрэтна «тэхнічных» інструментаў у Расіі не хапае для прамога гвалту, у артыкуле не ўдакладняецца. Сяргейцаў мяркуе, што дэўкраінізацыі ў якасці канчатковай мэты дэнацыфікацыі ў інфармацыйны век можна дамагчыся шляхам «інсталяцыі расійскай інфармацыйнай прасторы», для чаго, у прыватнасці, спатрэбіцца «выманне навучальных матэрыялаў і забарона адукацыйных праграм усіх узроўняў, якія змяшчаюць нацысцкія ідэалагічныя ўстаноўкі».

Схільнасцю да шапказакідальніцтва аўтар такога маштабнага сацыяльнага праекта не пакутуе. Ён усведамляе, што «тэрміны дэнацыфікацыі ніяк не могуць быць меншыя за адно пакаленне, якое павінна нарадзіцца, вырасці і дасягнуць сталасці ва ўмовах дэнацыфікацыі». Аднак працэс змены пакаленняў не варта пускаць на самацёк. Ён павінен праходзіць пад кантролем «пастаянна дзеючых органаў дэнацыфікацыі на перыяд 25 гадоў».

Але, як кажа народная мудрасць, гарбатага выпрастае магіла, упартага — дубіна. У жыхароў жа Украіны, якім тры дзесяцігоддзі прышчаплялася вакцына нацызму, шанцаў на выпраўленне няма. Таму цалкам разумным выглядае наступнае патрабаванне: «Ніякіх „планаў Маршала“ для гэтых тэрыторый дапускаць нельга. Ніякага „нейтралітэту“ ў ідэалагічным і практычным сэнсе, сумяшчальнага з дэнацыфікацыяй, быць не можа. Кадры і арганізацыі, якія з'яўляюцца інструментам дэнацыфікацыі ў новых рэспубліках, што падпадаюць пад дэнацыфікацыю, не могуць не абапірацца на прамую сілавую і арганізацыйную падтрымку Расіі».

**Расія ў якасці апошняй інстанцыі**

Слова «дэнацыфікацыя», якое пабіла пасля 24 лютага ўсе рэйтынгі папулярнасці, як і большасць неалагізмаў — гэта значыць слоў, якія нядаўна

***(працяг на стар. 4)***

РАСІЯ - УКРАІНА

(пачатак на стар. 3)

з'явіліся ў мове, — запазычанае «вялікім і магутным» у былых заходніх партнёраў, а цяпер «недружалюбных» краін.

Дэнацыфікацыя ў якасці комплексу мерапрыемстваў, накіраваных на ачышчэнне пасляваеннага германскага грамадства ад уплыву нацысцкай ідэалогіі, праводзілася па ініцыятыве саюзнікаў па антыгітлераўскай кааліцыі пасля перамогі над нацысцкім Рэйхам.

Сучасная Германія, якая прэтэндуе на ролю аднаго з лідараў калектыўнага Захаду, — ёсць вынік увасаблення ў жыццё ініцыятывы саюзнікаў. Не без яе ўдзелу здабылі другое дыханне шматлікія праекціроўшчыкі і спонсары ўкраінскага нацызму, які «нясе ў сабе не меншую, а большую пагрозу міру і Расіі, чым нямецкі нацызм гітлераўскага ізводу».

Гарантыяй паспяховай дэнацыфікацыі Украіны павінна стаць адмова Расіі ад праеўрапейскіх і празаходніх ілюзій. Для гэтага дзяржаве, якая ўзнялася з каленяў, неабходна ўсвядоміць сябе ў якасці апошняй інстанцыі, што ўстала на абарону «тых каштоўнасцяў гістарычнай Еўропы (Старога Свету), якія таго заслугоўваюць і ад якіх Захад канчаткова адмовіўся, прайграўшы ў барацьбе за самога сябе».

Апошняя цытата дазваляе перайсці ад прыватнага (расійска-ўкраінскага супрацьстаяння) да агульнага — татальнага перагляду палітычных і маральных панняцяў, якія склаліся ў заходнім свеце пасля Другой сусветнай вайны.

Дэнацыфікацыя — гэтым разам не паводле Сяргейцава, а паводле Пуціна, — азначае перш за ўсё тое, што гэтая вайна не толькі дапушчальная, аднак і маральна неабходная.

«На вайне супраць нацызму, — тлумачыць палітычны філосаф Ілля Будрайцкіс, — няма паўтонаў, а цана перамогі не мае значэння. У барацьбе Дабра і Зла немагчыма дасягнуць мірнага пагаднення — таму што кожны кампраміс са злом прыводзіць дабро да скажэння і псуе яго. Нацызм пагарджае ўсімі чалавечымі законамі і парушае іх — і таму на саміх нацыстаў не распаўсюджваюцца ніякія ўніверсальныя правы. З нацыстамі, як і з тэрарыстамі, не размаўляюць — іх знішчаюць».

Ва ўмовах канчатковага заняпаду Еўропы права усталёўваць універсальныя нормы чалавечнасці перайшло да Расіі. І не бяда, што яна спрабуе іх усталёўваць насуперак самому чалавецтву.

Без выдаткаў, зразумела, не абыходзіцца. Аднак жа не сёння нарадзілася прыказка: «Дзе дровы сякуць, там трэскі лятуць». Яе ў якасці ўніверсальнага тлумачэння вось ужо стагоддзе выкарыстоўваюць прыхільнікі «моцнай улады».

***

*Мне неаднаразова даводзілася адзначаць, што адной з базавых характарыстык культурнага ядра расійскай цывілізацыі з'яўляецца маніхейства — гэта значыць, уяўленне пра свет як арэну, на якой у апошнім змаганні сышліся Дабро і Зло, Святло і Цемра.*

*Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што ў выкананні крамлёўскіх ідэолагаў нацызм губляе уніканьныя рысы і ператвараецца ў інструмент стварэння ворага. «Адрозніць нацыста ад не-нацыста — цяпер гэта па сутнасці здольнасць адрозніць свайго ад чужога». Гэта не мае словы. Іх аўтар — Ілля Будрайцкіс.*

**Сяргей Нікалюк**
**novychas.online**

АГРЭСІЯ

# ВОЙНА С УКРАИНОЙ ОКАЗАЛОСЬ ВОЙНОЙ ЦИВИЛИЗАЦИЙ

**Известный российский журналист Андрей Лошак — о том, как великая Россия оказалась великим блефом. Устрашающий медведь с искандерами оказался поролоновым.**

Когда вечером за ужином родители тебя вновь ругают за какую-то херню, а ты изо всех сил держишься, чтоб не сказать, что не просил себя рожать:



— В Страстную неделю, когда православным полагается усиленно молиться о спасении души, главнокомандующий армией РФ решил развязать самое кровавое побоище в истории 21 века, — пишет Андрей Лошак. — К Пасхе он уничтожит тысячи людей по обе стороны фронта — потому что каждый погибший на этой войне на совести полоумного диктатора.

В воскресенье он возможно вылезет из бункера, чтобы постоять со свечой в руке в ХХС или Храме вооруженных сил под монотонный бубнеж Гундяева, прославляющего с амвона массовые убийства, а миллионы россиян будут взирать на это по телевизору, наивно полагая, что эта сатанинская месса и есть пасхальная служба.

Никогда не делаю прогнозы, вообще ничего не понимаю в войнах будучи убежденным пацифистом, но сейчас попробую «дать соловья» и поделиться своими предчувствиями по поводу наступившего апокалипсиса и его дальнейшего развития. Возможно, я не прав и вместо соловья дам петуха — посмотрим. Мне кажется, Россия проиграет битву за Донбасс. Потому что такова логика исторического развития.

Путин выбрал путь ресентимента, и большинство россиян поддержало его в этом. Ресентимент — это взгляд, обращенный в прошлое. Расчесывание старых ран и ностальгия по былому могуществу. Это хорошо показано в мультике про Масяню, когда она едет в Москву и слушает диалог попутчиков в купе: А я-то в советские времена о-о-о! — А я-то в советские времена у-у-у!

В интервью Медузе профессор Королевского колледжа в Лондоне Гульназ Шарафутдинова говорит: «В 1990-е Борис Ельцин был президентом той же самой страны, что есть сейчас. Но он делал ставку на реформы, на трансформацию, на другое видение России будущего и на другое видение прошлого России. Ельцин фокусировался на том, чем Россия может стать, а Кремль сегодняшнего дня сделал ставку на то, чем Россия была. И это не попытка вернуться к прошлому, нет, это попытка закрепить власть сегодня, используя психологические приемы манипулирования прошлым».

Все последние годы страна пятилась назад. Развитие новой России, которое запустили болезненные реформы 90-х, приостановилось. Это хорошо видно по экономической статистике, но официальная риторика продолжала разгонять ресентимент. Мы — великая страна в окружении врагов.

Успешная аннексия Крыма окончательно вскружила голову реваншистам. Глядя на последние 8 лет из сегодняшнего дня становится очевидным, что страна последовательно шла к войне с Украиной, которую пропагандисты называют анти-Россией за выбранный ею европейский путь развития.

Логика ресентимента предполагает не внутреннее развитие, а внешнюю экспансию. Тут с Путиным злую шутку сыграла кадровая политика. Выстраивая вертикаль власти по принципу лояльности, он избавился в своем окружении от людей, которые могли бы прийти к нему с цифрами и рассказать, во что стране обойдется военная авантюра. Обступившие его холуи говорили только то, что он хотел слышать, раздувая в нем чувство собственного величия, от чего он окончательно потерял связь с реальностью — типичная проблема диктаторов.

Очевидно, что в его окружение постепенно проникли отбитые наглухо имперцы, которые нассали ему в уши весь этот бред про то, что нет никакой Украины, как нет и украинского этноса. Помните, еще до войны Макрон после поездки в Москву озадаченно заявил, что «Путин предоставил ему 5 часов исторического ревизионизма», в течение которых президенту Франции так и не удалось вернуть его в сегодняшний день.

Произошел трагикомический казус: Путин действительно поверил в свою пропаганду. Он мог бы еще долго вопить про козни НАТО, одновременно продавая на запад энергоресурсы, — это была довольно устойчивая модель, благодаря которой Россия в ее нынешнем виде просуществовала бы еще десятки лет до полного вымирания поколения совко*бов. Никто же не трогает Северную Корею, хотя официальная риторика там ничем не отличается от российской.

Но реальная война — это уже не только раздувание щек на федеральных каналах. Это прямая схватка с другой стороной, которая всегда показывает кто чего стоит. Тут бравурными речами уже не победить. Путин, очевидно, недооценил не только Украину, но и весь западный мир, выступивший единым фронтом против российской агрессии.

В результате война с Украиной оказалось войной цивилизаций. Войной будущего с прошлым. И выиграть такую войну невозможно. Можно сравнять Украину с землей, денацифицировать все 40 миллионов украинцев, можно даже устроить ядерную катастрофу, но невозможно победить время. Оно всегда идет вперед.

Война сразу сорвала обтянутые триколорами фальш-фасады, обнажив все слабые места путинского режима. Устрашающий медведь с искандерами оказался поролоновым. Великая Россия — великим блефом. Про слабость кадровой политики, построенной на верноподданичестве, я уже сказал. По информации кремлевских инсайдеров, сейчас активно летят головы высокопоставленных генералов, но вряд ли этим уже что-то исправишь.

Олег Тиньков, один из тех, кто строил Россию будущего, а не прошлого, разразился сегодня гневным постом: «Генералы, проснувшись с похмелья, поняли, что у них говно-армия. А откуда армия будет хорошая, если все остальное в стране говно и погрязло в непотизме, холуйстве и чинопочитании?» Сверхцентрализованность системы принятия командных решений показала свою неэффективность на поле боя. Децентрализованная украинская армия действует гораздо мобильнее и успешнее.

Коррупция и шапкозакидательство обнажили техническую отсталость российской армии. Россия не может строить и эксплуатировать современное оружие без западных технологий, а про них теперь можно забыть. Обо всем этом с горечью пишут сейчас даже пророссийски настроенные военные аналитики — почитайте, например, канал активного участника одесского антимайдана Игоря Димитриева. Вот он публикует информацию о поставке Украине американских беспилотников:

«Украинским ВВС не потребуется ни длительное обучение, ни подготовка для применения БПЛА Reaper. Они могут использовать их сразу после поставки, расширив как свои разведывательные возможности на оперативном уровне, так и начав атаки на российскую приграничную военную и гражданскую инфраструктуру (в частности, объекты ПВО, ж/д узлы, топливные хранилища) с дальнейшим проникновением вглубь территории РФ.

Это не преувеличение, а лишь сухая констатация давно проверенных практикой фактов — MQ-9 способен взлететь в Киеве, добраться до Подмосковья, нанести ряд ракетно-бомбовых ударов и вернуться обратно<> Это — интеллектуальная война, опасная, так и не осмысленная за прошедшие 50 лет в России, она готовится вторгнуться на нашу территорию сплавом высоких технологий, анализа и стратегии — и игнорировать ее больше нельзя».

Проморальноеразложениероссийских солдат, смутно непонимающих, что они забыли на украинской земле, уже знает весь мир. Вломились бухие в чужой дом, устроили там резню, но по концовке получили крепких п*здюлей, после чего с позором убрались восвояси. Я верю, что так и будет. Сейчас у большинства россиян стадия отрицания. Очень сложно принять, что то, во что ты верил, оказалось даже не пшиком, а настоящим, чистым злом. Особенно сложно это сделать под напором пропагандистских г*внометов.

В чем-чем, а в создании иллюзий путинизм достиг поистине геббельсовских высот. И есть большая вероятность, что поражение только сильнее сплотит людей вокруг режима, а Россия окончательно превратится в нищую, изолированную страну озлобленных униженных орков, жаждущих нового реванша.

Но если россияне каким-то пока непонятно каким образом сумеют преодолеть эту губительную стадию отрицания, то наступит спасительная стадия отрезвления (принятия). Когда, утерев кровавую юшку, люди наконец наберутся смелости увидеть себя и свою страну не через кривое зеркало пропаганды, а такими как есть.

Чудовищная украинская афера — это зеркало, с которого облетела вся кремлевская мишура и выглянуло истинное отражение. Нужно будет обязательно ужаснуться увиденному (это необходимая стадия), а потом уже начать работу над собой. Строить из этой точки новую Россию, обращенную в будущее, а не в прошлое

**gazetaby.info**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: leo592202@gmail.com Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 29.04.2022 у 15.15** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.